# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

## ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня. Віленская вул. 33. Рэдакцыя адчыняна: 11—1 штодня апрача сьвяточных дзён. | Цана кожнага нумэру 5 м. Падпіска на 3 месяцы каштуе 50 м. (з дастаукай да хаты). Цана абвестак: 6 м. за радок пэтыту (на апошняй стр.). |
|---|---|

**Год I. Вільня. Нядзеля 15 траўня 1921 г. № 7.**


*Вільня* 15 *траўня.*

Хто здаволены Рыжскай умовай? Нагул бяручы—ніхто: ані польскае грамадзянства, ані тым больш беларускае. Ня будзем паўтараць няведама каторы раз, што можна было лёгка дабіцца куды выгаднейшых для Польшчы і больш справядлівых для Беларусі варункаў—адно толькі можам сказаць,—а гэта, здаецца, глыбокае пераконаньне бліз усіх беларусаў,—*рыжскі мір нядоўгавечны.*

Але-ж як-бы ён нятрывалы ня быў-бы, усё-ж пры шчасьлівым укладзе падзей ён можа пратрываць год, два а то й тры. Зразумела, што гэта магчыма толькі тады, калі Вільня і Віленшчына будуць зьвязаны цесна з Польшчаю ці то дарогаю прылучэньня (інкорпорацыі), ці то дарогай фэдэрацыі, дзе-б Віленшчына і запраўдная Літва (ковенская) тварылі-б адзін суцэльны організм. Бо, калі-б дзеля тых ці іншых прычын Вільня і Віленшчына адыйшлі да Літвы, то вузкі польскі калідор паміж Літвою і Савецкай Беларусьсю і Расеяй быў-бы разарваны пры першым лепшым падхадзячым мамэнце.

Думаем, што Літва мала мае шансаў на прылучэньне Вільні і Віленшчыны да сябе, застанецца гэта пры Польшчы, а тым самым узмацуецца крыху дрыглівы рыжскі мір.

Што-ж рабіць беларусам пры такіх варунках. У глыбіні душы і грамадзкага сумленьня ніхто з нас яго ня прызнае і ня прызнасьць, бо гэта зьдзек і глум над справядлівасьцю і правам. Аднак мір падпісаны, ўводзіцца ў жыцьцё, а з фактамі жыцьця трэба лічыцца.—Другая справа, як доўга працягнецца ствараўшаеся палажэньне, але цяпер часьць Беларусі аказваецца прылучанай да Польшчы і часьць беларускага народу з'яўляецца грамадзянамі польскага гаспадарства.

Вось-жа з гэтага палажэньня мы й павінны зрабіць усе належные вывады, якіе дыхтуюцца нашай карысьцю, мірным дагаворам і польскай конституцыей (праўда йшчэ не ўведзенай у жыцьцё!..)

Рыжская ўмова зусім выразна гаворыць аб правох нацыянальных меньшасьцяў, значыць аб правох кожнага народу на свой язык, на сваю школу. Будучы лёяльнымі грамадзянамі польскага гаспадарства, беларусы павінны адваяваць сабе тутака поўные нацыянальные правы—гэта першае нашае заданьне.

Калі, гаворачы аб сваіх нацыянальных правох, мы ўспамінаем адпаведны пункт рыжскай умовы, то толькі таму, што формальны пункт гледжаньня заўсягды найбольш відавочны і найбольш лёгкі да абароны. Але, запраўды, ня ў рыжскім трактаце мы шукаем абароны і апоры для сваіх правоў, а ў інтарэсах абодвых народаў: польскага і беларускага.

Прышоў час калі Польшча можа і павінна паказаць на дзеле, а ня толькі на словах, што яна ўмее праводзіць у жыцьцё так часта чуты кліч „вольные з вольнымі, роўные з роўнымі!“ Калі Польшча ў сваім гаспадарстве ўстроіць водлуг гэтае думкі свой лад, гэта будзе яе такая вялізарная моральная перамога, якая зможа зьмяніць усе палітычные адносіны на ўсходзе Эўропы. Як беларусы і ўкраінцы ў межах польскае дзяржаўнасьці знойдуць забяспечаньне сваіх нацыянальных правоў і магчымасьць разьвіцьця сваее культуры ў духу заходніх, дэмократычных ідэй, то й тые беларускіе і ўкраінскіе землі, што цяперака быццам

незалежные, а фактычна знаходзяцца пад панаваньнем Расеі, зьвернуцца ў бок Польшчы, шукаючы ў ёй прыкладаў для свайго нацыянальнага будаўніцтва і апоры ў барацьбе проціў маскоўскага ярма.

Калі-ж у Польшчы пачнецца ўціск і нацыянальнае змаганьне, само быцьцё Польшчы можа быць пастаўлена пад сур'ёзнаю пагрозай. Гісторыя даець гэтаму ясные довады: адною з найважнейшых прычын заняпаду і разьдзелу Польшчы было рэлігійнае змаганьне якраз з тым самым украінскім і беларускім элемэнтам, што й цяпер адышоў да Польшчы.

Упадак Польшчы быў-бы страшным няшчасьцем для ўсіх маладых і малых народаў, што аслабаніліся спад расейскага ярма: два страшные колёсы гэта Нямеччына і Расея, быццам млынавые камені на порах скрышылі-б асновы незалежнасьці і зерне нацыянальнага будаўніцтва гэных народаў.

Дык у імя супольнага дабра як найхутчэй павінна быць ясна азначана і сьцісла праведзена ў жыцьцё нацыянальнае права беларусаў і украінцаў у польскім гаспадарстве.

# З польскай прэсы.

„Naród" (3.V) піша:

„Польская Рэспубліка з аднаго боку магла-б сьмела рывалізаваць з былшай Расеяй: мае цяпер асаблівa на зямлі, далучанай да нашай дзяржавы на аснове Рыжскага дагавору, бюрократычныя крэатуры, якія адбіваюцца ад агульнага фону сыстымы адміністраваньня незнаёмасьцю з умовам, жыцьця жыхароў, а талоўным чынам—дэморалізацыяй і дрэнным выпаўненьнем сваіх службовых абавязкаў, а ўсё гэта разам узятае адбіваецца дэпрэсыўна на псіхіцы мясцовой людпасьці.

„Польскі ўрад перад тым, як вазначаць урадпікаў на крэсах, павінен быў усестаронна пераканацца аб іхняй моральнай і інтэлектуальнай здатнасьці. Дасюляшняя сыстэма прыёму людзей у крэсовыя ўрады давяла да вельмі дрэнных рэзультатаў. З прычыны бюрократычнай гаспадаркі чутно ўжо на крэсах галасы нездаволеньня, а навет — абурэньня. У крэсовых грамадзян вытвараецца справядлівы пагляд, што польская дзяржава карыстаецца зганграэнованым адміністрацыйным апаратам, каторага сынонімам ёсьць обскурантызм, а мэтай—падпарабуніваецца капіталу і цягнуўшымся ў ягоным хвасьце розным сатэлітам дрэнпай вартасьці.

„Кароткая практыка крэсовых урадовых устаноў выказала рад неакуратнасьці. Мясцовая людпасьць мела магчымасьць у кароткі час пазнаёміцца з палітыкай п. п.ураднікаў, якую сыстэматычна ўзмацоўвалі вялікія земляўласьнікі. Бо рады і ўказаньні земляўласьнікаў прадстаўнікі ўрадовых устаноў прыймаюць безкрытычна. А ўзмацоўваньне і апека панскіх пратэнсый, якія няраз для прызваітасьці прыкрываюцца плашчом таннага

Франціщак Аляхновіч.

# НЯСКОНЧАНАЯ ДРАМА

пьеса ў 4-х актах.

(Гл. № 1—6).

ЯДЗЬКА (ідзе да печы, выймае гаршчок і, нічога ня кажучы, ставіць на стале перад Васілём; пасьля, ня гледзячы на яго, адыходзіць ізноў і сядае на ложку).

ВАСІЛЬ (пабачыўшы гаршчок). А! каша!.. Добра! дзякую! няхай пастаіць! я зараз...

ЯДЗЬКА. Як пастаіць, дык астыгне — і так яна ўжо доўга настаялася. Зьясі цяпер, будзе смачней...

ВАСІЛЬ. Ну, добра... (есьць).

ЯДЗЬКА. Казала мне Паўлінка, што можна дзіця памясьціць у прытулак. Кажа, што яму там будзе добра...

ВАСІЛЬ. Ага... у прытулак, кажаш? Гм... Ну, што-ж... (Паўза)

ЯДЗЬКА. Ну, чаму-ж нічога не кажаш? Якжа табе гэта здаецца?

ВАСІЛЬ. Гм... А ты што аб гэтым думаеш?

ЯДЗЬКА. Я думаю, што калі ўзапраўды там добра, дык можна папрабаваць. Мне там можна кожны дзень прыхадзіць, паглядзець. А калі пабачым, што там дрэнна, дык заўсёды можна будзе дзіця ўзяць назад.

ВАСІЛЬ (гэты праэкт усьцешыў яго, але ён не паказвае свае радасьці). Але, але... Гэта добрая думка... Калі будзе дрэнна, дык-жа можна ўзяць назад... А нам будзе шмат лягчэй, калі дзіця будзе ня ў нас, а... ў добрых руках.

ЯДЗЬКА. Казала Паўліна, што трэба ахрысьціць. Ня хрышчонае ня прыймаюць.

ВАСІЛЬ. Але... але... Трэба ўжо ахрысьціць... Пара ўжо...

ЯДЗЬКА. Якое дамо імя?

ВАСІЛЬ. Імя? Пачакай, трэба падумаць, гэта важная рэч... Чакай, зараз... (ходзіць па сцэне). Зараз... зараз... О, ужо маю!—Юры! Гэта імя героя маей драмы... Няхай ён будзе Юры на памятку таго, што радзіўся ў той час, як я пісаў гэту сваю драму: Вось ахрэсьцім яго Юры, Юрка! добра?

ЯДЗЬКА. Э, не! Мне гэтае імя не даспадобы. Юрка — гэта неяк брыдка. Вось каб Альфонс — гэта вельмі прыгожае імя.

патрыятызму ды абароны польшчыны на крэсах, будзіць у шырокіх масах мясцовага грамадзянства зразумелую непрыязнь да польскае дзяржаўнасьці.

„У часе калі праводзіцца зямельная рэформа, трэ' было-б адсоўваць усё тое, што можа быць прычынай непаразуменьня між сялянскай люднасьцю і панамі. Калі паны не дарасьлі, каб зразумець вагу для дзяржавы зямельнае рэформы і варожа да яе адносяцца, дык дзяржаўная ўлада павінна зрабіць нешта, каб прымусіць упартых людзей да пашаны законаў.

„А ў той час—як мы бачым—пануе на крэсах г. наз. „дзікая парцэляцыя", якую праводзяць паны вялікшых маёнткаў. Абшарнікі, хочучы абмінуць загады аб парцэляцыі пад кантролям зямельных урадаў, прадаюць зямлю па высокай цане глаўным чынам чужым прыблудам, аб чым мясцовыя сяляне даведваюцца пасьля факту. Вельмі рэдка сяляне могуць купіць частку парцэлёванага маёнтку, дзеля таго што іхняе грашовае становішча не дазваляе ім конкураваць са спэкулянтамі, якіх шмат едзе на крэсы, каб тут рабіць гандаль з земляўласьнікамі. Гэткім самым спосабам прадаецца і лес... Нездаволеньне сялян разьліваецца шырокай хваляй і яны бачуць крыніцу зла ў канцэлярыях старостаў і наагул дзяржаўных урднікаў, якія маюць уладу ад імя Рэчыпоспалітай"...

Стацьця канчаецца гэтак:

„Немагчыма ў газэтнай стацьці выказаць усе „кветкі" дзеяльнасьці крэсовай бюрократыі, якія атручываюць паветра грамадзянскага жыцьця сваім пахам. Наш абавязак кінуць прамень сьвятла на работу мясцовых уладароў з надзеяй, што адпаведная ўлада загляне ў дзьверы ўрадовых установаў і вымяце адтуль розных гадоў, якія загаджваюць дзяржаўныя канцэлярыі і робяць агідным імя Польшчы"...

# Проціў беларусаў.

Карэспандэнт „Нашае Думкі" паведамляе, што горадзенскі староста, пан Рэгалевіч, зачыніў у павеце дзесяць каапэратываў і загадаў у працягу чатырох дзён зьвярнуць пайшчыкам усе паі і распрадаць тавары.

У самай Горадні зачынена старэйшая беларуская каапэратыва „Беларусь", а таксама арганізаваная летась „Бацькаўшчына".

Прычына закрыцьця невядома. Людзі думаюць, што прычынай гэтай зьяўляецца тое, што рахунковасьць вялася ў беларускай мове.

# Пачатак „Панскага ігрышча".

— Ох! ох! ох! умру ад сьмеху,
Жыватачкі падарву.
Вось-жа відзеў я пацеху,
Не забуду аж умру.—
Так Янук да свойго таты
Стаў прыйшоўшы гаварыць,
Трэба-ж знаць, што з сваей хаты
Ен пайшоў у двор служыць.
— Ціха, дурэнь! што рагочаш?
Ці ты з глузду ўжо сышоў,
Ці людзей сьмяшыць ты хочаш?
Гавары, чаго прыйшоў!

ВАСІЛЬ. Фу, не! Нейкае чужаземнае, гішпанскае імя.

ЯДЗЬКА. Але, табе заўсёды не падабаецца тое, што падабаецца мне!

ВАСІЛЬ. Не; Юры — харошае імя. Юры — сьвяты вой, што ляціць на кані і рагатынай коле гада цемры, як бог Ярыла, сын сонца, які адчыняе браму неба і на белым кані на зямлю ляціць, каб збудзіць вясну, (п а д ы х о д з і ц ь д а к а л ы с к і, в е с я л а). Юрка-Ярыла! уставай брат! будзем калоць рагатынай паганага гада цемры, хвацем его за бараду, як я Пшэпёнткоўскага, і кінем яго ў цёмную пропасьць бяз дна, хай ляціць гэтак да скапчэньня вякоў. Юрка! Хай жыве сонца! вясна! жыцьцё!..

ЯДЗЬКА (т а к с а м а п а в я с я л е ў ш ы) Ну, кінь ты ўжо крычаць, а то дзіця напалохаеш!

ВАСІЛЬ. Не, ён не баіцца... Ен глядзіць на мяне і сьмяецца. Але, сьмейся, брат! Жыцьцё дано нам для сьмеху і радасьці! Сьмейся, як богі шчасьлівые сьмяяліся!

ЯДЗЬКА (с т о я ч ы р а д а м з В а с і л ё м п р ы к а л ы с ц ы, д а д з і ц я ц і). Сьмяешся з свайго звар'яцеўшага бацькі! Сьмейся, бо твой бэцька вялікшы за цябе, а такі самы дурненькі, як ты... Ах, ты маленькі мой, бедненькі! Альфонсік мой!

ВАСІЛЬ. Не Альфонсін, а Юрка!

ЯДЗЬКА. Не, ня Юрка, а Альфонсік!

ВАСІЛЬ. Не! Юрка!

ЯДЗЬКА. Не! Альфонсік!

ВАСІЛЬ (з н э р в а в а ў ш ы с я). Ядзька! Чаго ты упіраішся з сваім Альфонсікам? Чаму ты ня хочаш уступіць мне?

ЯДЗЬКА. А ты чаму мне ня хочаш уступіць?

ВАСІЛЬ. Чакай! Каб было справядліва, зробім гэтак... (в ы ц я г в а е з к і ш а н і х у с т а ч к у і з а в я з в а е в у з я л о к). Вось, няхай лёс разсудзіць! Вузялок—гэта Альфонсік, а без вузелка—Юрка. Калі выцягнеш вузялок, ну дык няхай тады будзе па твойму: Альфонсік? Добра?— Ну, маеш, цягні!

ЯДЗЬКА. Добра. (П а м а л у, а с ь ц я р о ж н а ц я г н е, в ы ц я г в а е в у з я л о к). А вось! вузялок! (з т р ы у м ф а м): Альфонсік! Альфонсік! Альфонсік! (ц а л у е д з і ц я). Ну, чаго-ж ты пачаў плакаць? Есткі хочаш?

ВАСІЛЬ. Ен плача, бо ня хоча называцца Альфонсам.

ЯДЗЬКА. Васіль! У печы грэецца малако. Дай мне сюды бутэльку.

ВАСІЛЬ (в ы й м а е з п е ч ы р о н д э л ь ч ы к, у к а т о р ы м г р э е ц ц а б у т э л ь к а з м а л а к о м і з с о с к а й. Д а е б у т э л ь к у Я д з ь ц ы. Я н а к о р м і ц ь д з і ц я). Ну, ты

— Ціха, тата! чаго лаеш,
Як ня ведаеш за што.
Больш скажу, дык не стрываеш,
Сам пабачыш, што сьмяшно:
Да двара з самога раньня
Сталі госьці прыежджаць,
Мела быць там баляваньня,
Іграць мелі, танцаваць.
Пэн і пані выхадзілі
Госьцей сваіх сустрэчаць,
У пакоі увадзілі,
Сталі есьці, піць даваць!
А як толькі цямнець стала
Запалілі скрозь агні.
Пакаёўка разстаўляла
Усе крэслы ўкруг сьцяны.
Я бардзей тут захінуўся
За кусты процiў вакна
І гляджу а сам дзіўлюся.
Як на далоні скрозь відна,
Што ў пакоі тым было:
На сьценах там малявідла,
А падлога быццам шкло.
У куце стаяла скрынка
Так як стол на тры нагі,
А к тамуж тая навінка
Мела надта хвост даўгі.
Так я думаў аж тут сталі
Усе госьці ухадзіць,
Скрозь па крэслах пасядалі,
Кожын у куток глядзіць...

А. Гурыновіч.

# Другу.

Ты хочаш ведаць, мілы дружа,
Чаму заўсёды сумны я?
Ты думаеш занятна дужа
Жальба самотная мая?
Дарэшце ў ёй за кожным словам
Стагнаньні, енкі, сьлёзы льюцца;
А песьні?.. Песьні у ёй пяюцца—
Ды толькі душаць сэрца горам.
Няма ў іх радасьці вясёлай,
Няма ў іх пекных, зычных слоў,
Усё дыша ў іх журбой, пакорам,
І аддае магільным тхлом.
Дык ня судзі мяне ты строга,
Што ня пачуеш больш нічога
Апрача болю жальб маіх.
Ну што-ж?—гатоў ты слухаць іх?

Р. Жакоўскі.

---

супакой Альфонсіка, а я варочаюся да свайго Юркі. (Ідзе да стала і бярэцца за рукапісы).

ЯДЗЬКА (да дзіцяці). Ну, што? ня хочаш малачка? Дык чаго-ж ты плачаш, плакса гэтакі! (калыша дзіця). Ааа, ціха, сьпі! аа! маленькі! Сьпі, сьпі, сьпі, сынок! Вось так, ціха, ша! Мама пойдзе ў прытулак паглядзець, ці там добра. Калі там будзе добра, дык застанемся там, а калі блага, дык вернемся да хаты... (да Васіля). Ты нікуды цяпер ня пойдзеш?

ВАСІЛЬ. Не. Пасіджу яшчэ крыху ў хаце. А што?

ЯДЗЬКА. Я хачу схадзіць да гэтай пан. Ягодзінскай, аб каторай мне казала Паўлінка Даведаюся аб прытулку, а ты пасідзі тут і, як дзіця пачне плакаць, дай яму бутэльку з малаком. (Аддае яму бутэльку) Вось маеш, пастаў ізноў у печы, каб было цёплае. (Васіль бярэ бутэльку і ставіць у печ). Ці мароз сягоньня вялікі?

ВАСІЛЬ. А так... нічога сабе. Шчыпецца за нос.

ЯДЗЬКА (апранаецца і выходзіць). Я мабыць хутка вярнуся. Доўга там не засіджуся.

**Зьява 5.**

ВАСІЛЬ (адзін).

ВАСІЛЬ (нейкі час піша, пасьля чытае з пафосам):
Вы бачыце? Народ ўжо ня сьпіць,
Да новага жыцьця ён косьці распраставу,
Няволі кайданы ўжо разьбіваць пачаў,
Бо так, як іншые, свабодна хоча жыць...
(кідае пяро і рукапіс). Не! гэта заслаба чорт!.. Ня так! Я чую, што ня гэтак, а вось так як трэба, не патраплю... „Няволі ланцугі ўжо разьбіваць пачаў..."—ну што з гэтага! Гэта ўсё ужо старае, ўжо ўсім надаела! Трэба новых слоў, крэпкіх, як удар малата па кавадлу, трэба каб кожнае слова будзіла магутны одгук, тварыла новае жыцьцё!.. Э, чорт! сягоньня неяк ня клеіцца (устае і падыходзіць да калыскі). Але, брагок! Але, Юрачка! Як вырасьцеш, будзеш мо, сьмяяцца з бацькаўскіх твораў, яны пакажуцца табе наіўнымі ды слабымі, але, сынок, выбачай, мы людзі маленькіе, мы толькі першые ластаўкі нашага разцьвету, мы як той гной, на якім закрасуецца з часам багатае жыта..

**Зьява 6.**

ВАСІЛЬ і КОСТУСЬ.

Уваходзіць Костусь. Глядзіць з лёгкай іроніяй на Васіля.

Францішк Аляхновіч.

*Ахвярую Купале.*

# ЗАРУЧЫНЫ ПАЎЛІНКІ

пьеска ў 1 акце
с песьнямі і скокамі.

(Гл. № 6.)

**Зьява 4.**

СЬЦЯПАН
(уваходзіць з бакоўкі).

Гэта, каханенькі-родненькі, можна сказаць дзьве дзюркі ў носе і скончылося... Вось гад які! Каровы, кажа, па сто рублёў, за каня, кажа, тры сотні дзэў, авечкі маю, кажа... Усё, кажа, маю: і лес маю, і сенажаць маю, жыта, кажа, нажаў коп дзьвесьце, аўса, кажа, таксама дзьвесьце,—а ў начы ў суседзяў клумкі з каморы выцягвае!.. Ух, пагапец, каханенькі! Ну, калі ён яшчэ раз пападзе мне пад руку, дык ён тут гэткага манчыза затанцуе, што ня рад будзе, што радзіўся на сьвет Божы!

(Сядае і курыць люльку).

Праўда, што чалавек ён ня просты: у чорным сурдуце ходзіць і на ўсе штукі майстар—і да танца, і да ражанца, як той казаў—ну, ведама, адным словам, чалавек шляхоцкага роду. Але што-ж з гэтага, калі ашуканец і злодзей, каханенькі-родненькі!

**Зьява 5.**

Сьцяпан і Альжбета.

АЛЬЖБЕТА
(уваходзіць).

Паўлінка!... Гдзе-ж Паўлінка! Мусіць пайшла кароў падаіць. (Пабачыўшы Сьцяпана, затрымалася, зложыла рукі на грудзёх і глядзіць на яго).

СЬЦЯПАН
(зірнуўшы на жонку, апускае вочы, бо саромiцца і царапае пальцам у люльцы быццам папраўляючы тытун).

АЛЬЖБЕТА.

Ах ты, мядзьведзь дурны! Захацелася яму зяця (перадражнівае) «шляхоцкага заводу, з усякой дэлікатнасьцяй і ўсё такое»... Вось маеш цяпер „усё такое!" Нарабіў сораму ня толькі роднай дачцы, а і сваім сівым валасом... Вось! вось! царапай цяпер кіпцям у люльцы, бо, ведама, сорамна пасьля ўсяго гэтага клянуць людзём у вочы.

СЬЦЯПАН.

Дык ты, баба, не мялі языком, каханенькая, родненькая! Языком дзела не направіш, а толькі горэй зробіш. Язык ня цэп; няхай ціханька сядзіць за зубамі і дарэмна не балтаецца.

---

КОСТУСЬ. Ха-ха-ха! Настрайваеш свайго сына на беларускі лад? А опозыцыю супакаіваеш бутэлькай з малаком?

ВАСІЛЬ. Сьмяешся, браток, бо гэтага не адчуваеш. (П а к а з в а е н а к а л ы с к у). Вось гэта—частка майго „я". Прыйдзе час, калі сілы аслабнуць, мазгі ня будуць працаваць так, як цяпер, перад вачыма зазьяе чорная пропасьць—сьмерць, тады захочацца мне, каб быў працяг майго жыцьця тут на зямлі, каб нехта рабіў далей маю няскончаную працу, вось тады ён—мой наступнік—будзе цягаць каменьне на піраміду маей ідэі.

КОСТУСЬ. Забываешся аб тым, што дзіця будзе знаходзіцца не пад адным тваім уплывам. Маці мае вялікшы ўплыў на узгадаваньне душы дзіцяці. Дый, хто ведае, само жыцьцё на які лад выкуе яго душу. Мы хочам, каб дзеці нашы йшлі па нашым шляху, а бывае, што дарогі нашы разойдуцца, што дзеці і бацькі—заклятые ворагі...

ВАСІЛЬ (ж а р т у ю ч ы). Ну ўжо вылез з свае нары і пачаў каркаць!

КОСТУСЬ. Я ня каркаю. Я кажу так, як ёсьць. Можа навет гэта добра. Каб нашы дзеці йшлі па працярэблянай намі дарожцы, а не шукалі новых сваіх уласных шляхоў, дык не было-б ніякага поступу. Гэта ўжо старая праўда, што два пакаленьні—два ворагі... І хоць ты трэсьні а душу свайго сына не зачыніш у клетку сваіх уласных ідэй, яна вырвецца і паляціць туды, куды ты мо' ня хочаш. (П а к а з в а е н а р у к а п і с ы, я к і е л я ж а ц ь н а с т а л е). Вось тут дык ты поўны гаспадар. Тут ніхто не разьдзяляе з табой тваіх мук творчасьці, тут ты адзін сапраўдны ўладар. Тут ты, як Бог, творыш свой уласны сьвет. І твой твор—тваё духоўнае дзіця—будзе такім, якім віхор думак тваіх яго выкуе.

ВАСІЛЬ (з а д у м а ў ш ы с я). Але! гэта ты добра сказаў. Тут я поўны ўладар... Але ведаеш?—бяда! Апошнімі часамі нешта ня клеіцца. Раней ішло гладка, як пугай высмаліць, не пасьпееў кончыць адну зьяву—ўжо таўпіліся словы, абразы другой, пяро не пасьпевала за думкамі,—а цяпер рэптам абарвалося!.. Я ня ведаю, чаму гэта? Мусі гэтые цяперашніе ўмовы майго жыцьця гэтак мяне настрайваюць... Ах, Божа! Ведаеш, Костусь, мне здаецца, каб я гэтак мог заняцца толькі аднэй сваей работай, а не разрываўся на часткі, каб ня трэба было бязупынна думаць аб штодзенным куску хлеба, аб малаку для дзіцяці—вось тады-б пісаў!.. (З л я т у ц э н ь н е м): Раніцай устаеш з ложка, а тут для цябе ўсё гатова. Даюць табе салодкую каву з булачкамі,—пасьнедаў, пасьля закурыў добрую папіросу, сеў за працу, аб абедзе ня трэ' клапаціцца, прыйшла пара і цябе клічуць на гатовы ўжо сытны абед...

АЛЬЖБЕТА.

Дык-жаж ня мы адны тут былі. Ці-ж ты забыўся, што ўвесь гэты наш сорам бачылі і Пустарэвічы. Ен-жа—Пранцісь Пустарэвіч—і злавіў за вакном у садзе гэтага гіцля, каб яму пуста было! Ім ты ня скажаш трымаць язык за зубамі. Хутка ўся ваколіца будзе ведаць і нельга будзе людзём ад сораму вочы паказаць...

СЬЦЯПАН.

Але... Няма што казаць—справа дрэнная...

АЛЬЖБЕТА.

Каб ты згодзіўся, дык можна было-б паправіць.

СЬЦЯПАН

Як?... Ня хачу я бачыць гэтага падлу!.. Я яму тут затанцую такую падзікварту ажно яму падзіспаць захочацца...

АЛЬЖБЕТА.

Ды ты аб кім? Я-ж не аб ім.

СЬЦЯПАН.

А аб кім?

АЛЬЖБЕТА.

Аб Сароцы.

СЬЦЯПАН.

Аб Сароцы? Яшчэ ляпей! Добра прыдумала, кахаленькая, родненькая! Бобу баба аб'елася ці што? Ен-ж згніе ў турме за свае афішкі ды забастоўкі!

АЛЬЖБЕТА.

Кажуць, што хутка ўжо на волю выйдзе.

СЬЦЯПАН.

А хай ён прападзе і адчапіся ад маей галавы. Не хачу я навет знацца з гэтакім катаржнікам, хай ён на першай асіне павесіцца!

АЛЬЖБЕТА.

Быў-жа час, калі ты інакш казаў і навет любіў гэтага мальца.

СЬЦЯПАН.

Каб ня гэтыя афішкі ды розныя фармазонскія кніжкі, дык нічога, хлапец быў да рэчы... Але наконта таго, каб аддаць яму Паўлінку, дык і слухаць не хачу! Не для пса кілбаса! Не аддам я сваю дачку за мужыка, хаця ён навет вучоны вучыцель. Усе мы былі шляхоцкага роду і з мужыкамі радні не завадзілі. Бацька мой, сьвяты супакой яго душачцы, Калістрат Крыніцкі, у дамавіне сваей перавернецца, калі даведаецца, што яго ўнучка выйшла замуж за Якіма Сароку, кахаленькая роднеенькая! І больш, каб я аб гэтым сьвінапасе ў сваей хаце ня чуў ніякай гутаркі, бо табе кудлы ўсе вырву, а яму лоб расшэплю! (выходзіць у бакоўку).

**Зьява 6.**

Альжбета (адна), пасьля Паўлінка.

АЛЬЖБЕТА.

Эх, ты гнілая качарэжка! „Адзін лапаць, другі бот, а я шляхціц далібог"... Вось набраўся фанабэрыі—на сьмех людзём дый толькі!..

---

Вось тады-б пісаў!..

КОСТУСЬ. Хто ведае... мо-жа-б ты ў гэтакіх абставінах нічога-б не напісаў!

ВАСІЛЬ. Не! брэхаш! усё роўна пісаў-бы! Дзеля чаго я пішу? Я чую патрэбу, мне хочацца паказаць людзём, што ў мяне накіпела ў душы. І апроч таго я веру, што пяром сваім я прынясу карысьца нашай справе.

КОСТУСЬ (і р о н.) Справе?—Нашто гэта? Каму гэта патрэбна?

ВАСІЛЬ. Э, кіньмо лепш! Мы гэтулькі ўжо разоў гутарылі аб гэтым і ніколі ня можам згадзіцца. Дык навошта-ж спрачацца без патрэбы?

КОСТУСЬ. Бо ў цябе ўсё гэтак проста, ясна, выразна: або так, або не, калі ня чорнае, дык белае. Ты, браток, забываешся, што паміж „так" і „не" ёсьць цэлые пераходные ўсходы сумлеўкаў, што між чорным і белым ёсьць цэлая гамма шэрых таноў. Ты сьмела выстаўляеш сваю душу на паказ, а ёсьць душы, як дэлікатная йскрыпка, якую якійсь дурны дравасек можа цюкнуць сякерай і скалечыць яе на заўсёды. І ёсьць людзі, якіе хаваюць сваю душу ў футляр, каб іншые бруднымі сваймі лапамі ня чапалі яе.

ВАСІЛЬ. Э, чорт з ёй! няхай іграе! Няхай—як кажа паэта—іграе, пакуль ня трэсьне, каб аж вушы драла, каб так заіграла, каб зямля скакала!.. Але, пачакай, браток!—датычна твайго „так" і „не" ты не зусім справядліва кажаш. О, не! Хто лепш можа ведаць, якіе крутые ўсходы вядуць ад „так" да „не", —такіе, што галаву можна скруціць. Ты думаеш, што мне да майго „так", да маей праўды, лёгка было дайсьці? бяз болю? О, не! Бацькі ад калыскі вучылі мяне чужацкай мовы, школа вучыла мяне любіць чужую культуру, гэтакіе тыпы, як ты, сьмяяліся з маіх сумлеўкаў, з маіх духоўных мук, шмат дзён, многа бяссонных ночаў прышлося біцца галавой аб сьценку, каб рашыць балючае пытаньне. Цяжка было, ох, як цяжка кінуць усё тое, чым ты быў ўзгадаваны, тое, з чым ужо зжыўся, як з уласным, назваць усё тое чужым і вярнуцца да прымітываў. Ты думаеш, што лёгка церабіць новы шлях у лесе, гдзе спогаду так мала, а толькі чутно злостны хіхот начніц?

КОСТУСЬ. Але нашто церабіць гэты „новы шлях"? Нашто выбівацца над шэрую масу ціхіх людзей? Няўжо-ж не ляпей, зачыніўшы перлы сваей душы на крэпкі замок, кінуцца на хвалю жыцьця і—плыць туды, гдзе большасьць? Нашто лобам біцца аб сьценку?

(Працяг будзе.)

ПАУЛІНКА
(убегае).

Мамачка! родненькая! Якімка сягоньня будзе ўжо на волі!

АЛЬЖБЕТА
(паказваючы пальцам на бакоўку, што там ёсьць бацька).

Ціха!..

ПАУЛІНКА
(радасным шоптам).

Мамка! Ен пісаў пісульку да брата Адэлькі!... Але вось бяда: цяпер ўсе ужо ведаюць і будуць сьмяюцца з мяне з прычыны здарэньня з гэтым панам Быкоўскім. Як даведаецца аб гэтым Якімка, дык яшчэ падумае, што і ўсапраўды нешта было ў мяне з гэтым зломкам! А гэта ўсё бацька вінаваты! (плача). Каб ня бацька, дык-бы й не было гэтага сораму...

АЛЬЖБЕТА.

Супакойся, Паўлінка! Я ўжо тут з ім гутарыла...

ПАУЛІНКА
(зацікавіўшыся).

Ну, а татка што?

АЛЬЖБЕТА
(уздыхнуўшы).

Эх, і слухаць ня хоча. Я яго і так, і сяк... Не, кажа, і не! Я яму лоб, кажа, гаду расшэплю—вось! Але нічога, дзетанька, трэба пацярпець, пачакаць, мо' бацька і адпусьціцца.

ПАУЛІНКА.

Мамка! Трэці год мы кахаемся, трэці год мы чакаем тэй часіны, калі татка адпусьціцца і хіба ўжо гэтак усё жыцьцё перачакаем!.. Калі татка ня згодзіцца, дык я даўжэй ужо чакаць ня буду: уцяку з роднай хаты без таткаўскага багаславенства, хай будзе як будзе!

АЛЬЖБЕТА.

Што ты! што ты! Як-жаж гэтак без багаславенства! Бог шчасьця не пашле.

ПАУЛІНКА.

А гэтак шчасьце? Чакаць таткаўскай згоды, а бачыць толькі таткаўскія фанабэрыі? Тужыць за мілым, а скакаць нейкіе выкрутасы з панам Быкоўскім? Я ўцяку, далібог, уцяку, а калі ня ўцяку, дык павешуся! (плача).

АЛЬЖБЕТА.

Ну, ціха, дзетанька, ня плач. Бог дасьць усё добра будзе, бацька адпусьціцца, ня плач. Вось пачакай, я пайду яшчэ з ім пагутару... (выходзіцьса сьлязой на вачох у бакоўку).

## Зьява 7.

ПАУЛІНКА
(пяе):

Год трэці ўжо дарэмна, эх,
Чакаем шчасьця мы свайго,
Душу няраз агорне страх:
Ці дачакаемся яго.

А татка упіраецца,
Каб за Якіма я ішла,
Бо хоча зяця паніча,—
Во чыста далібог бяда!

Далей так жыць ня маю сіл,
Ня маю сіл зцішыць тугу,—
Пайду за тым, хто мне так міл
І з роднай хаты уцяку.

## Зьява 8.

Паўлінка і Якім.

ЯКІМ
(пры апошніх словах песьні паяўляецца на парозе. Ен ціха падыходзіць да Паўлінкі і абыймае яе).

Вось і я—як тут быў!

ПАУЛІНКА
(спалохалася).

Ах, як напалохаў!

ЯКІМ.

Выбачай, золатца, што я ўвойшоў так ціха і падслухаў тваю песьню.

Выбачай, і дзякую табе за твае словы каханьня. Я думаў, што можа мая Паўлінка дзеля пана Быкоўскага забылася аб сваім Якімцы, але бачу, што ты для мяне ўсё такая самая, як раней была!..

ПАУЛІНКА.

Вось яшчэ чаго!.. Але ты, значыцца ўжо зусім вольны! калі-ж выпусьцілі?

ЯКІМ.

А вось нядаўна. І перш-на-перш я прыбег да свае зязюлькі, каб даведацца, ці любіць мяне так, як раней.

ПАУЛІНКА.

Ого, які цікавы! Хутка састарэішся!

ЯКІМ.

Цікавы, бо ад гэтай цікавасьці залежыць усё маё жыцьцё, усё маё шчасьце. Цікавы, бо ад твайго каханьня, Паўлiначка, прыбывае мне сілы змагацца з жыцьцём і з благімі людзьмі. Бо калі я ведаю, што ты мяне любіш, тады я раблюся дужы, крэпкі, такі, што здаецца ўвесь сьвет-бы выклікаў на барацьбу.

ПАУЛІНКА
(туліцца да яго з каханьнем).

Якімка мой!.. А ці гэты поп, аб каторым ты казаў, што прыедзе ў Міхалішкі, яшчэ назад не паехаў?

ЯКІМ.

Не яшчэ, не паехаў... Але я цяпер думаю іначэй зрабіць. Ня будзем ужо шыта-скрыта шлюб браць, а раней паспытаемся дабіцца згоды бацькоў тваіх. Я цяпер бачу, што раней бацька твой меў на мэце пана Быкоўскага, але цяпер, калі ўсё гэта кончылася, можа і Якім Сарока будзе да спадобы. Ды апроч таго ў сэрцы маім гэтулькі каханьня, у душы гэтулькі радасьці і надзеі, што як толькі пабачу яго, дык, здаецца, адразу пера-

канаю. Ды няўжож татка твой камень, а не чалавек! Няўжож ён ня ўпяміць таго, што толькі там шчасьце, дзе ёсьць каханьне, а хто-ж будзе мацней кахаць цябе, чымсь я?

ПАУЛІНКА.

Мамка ўжо перайшла на наш бок і стараецца ўгаманіць татку.

ЯКІМ.

Ну, вось бачыш, зязюлечка! мамка ўжо за нас. Я веру, што і бацька хутка зьмягчэе! Ну, а калі не, дык тады пойдзем ужо да шлюбу насупроць яго волі. Калі ён шчасьця даць нам ня хоча, самі собе яго здабудзем і зробім так, як учора абмазгавалі. Добра, Паўліначка? ты згодна?

ПАУЛІНКА.

Добра...

ЯКІМ.

О, мая ты харошая, добрая, залаценькая!... (цалуюцца).

**Зьява 9.**

Тые-ж і Сьцяпан з Альжбетай.

СЬЦЯПАН

(уваходзіць з бакоўкі, за ім Альжбета).

А гэта што, каханенькі-родненькі! Хочаш мусі, каб я цябе кіём па патыліцы змазаў, гіцэль ты гэтакі каханенькі! Хто пазволіў табе пераступіць парог маей хаты дый яшчэ тут цалавацца з Паўлінкай! Вон з мае хаты і каб духу твайго тут не было!

ЯКІМ.

Паслухайце толькі мяне, пане Сьцяпане!..

СЬЦЯПАН.

Вон!—і чуць цябе не хачу, каханенькі родненькі, падла ты гэтакі!...

ЯКІМ.

Адзін, апошні раз паслухайце толькі мяне — і даю вам слова, што больш ніколі не пераступлю парогу вашай хаты.

СЬЦЯПАН.

Вон, кажу табе, пакуль я добры!

АЛЬЖБЕТА

(супакайвае мужа, цягне яго да лавы і содзіць).

Паслухай-жа чалавека, калі хоча табе сказаць нешта...

ЯКІМ.

Пане Сьцяпане! Крыўду вялікую мне робіце, паночку! Я вам зла ніколі ніякага не зрабіў...

СЬЦЯПАН

(бармоча з іроніяй пад нос).

Зла ніякага не зрабіў!..

ЯКІМ.

Але! Ніякага вам зла не зрабіў,— наадварот, заўсёды паважаў вас і любіў, як роднага бацьку. Любіў вас дзеля таго, што палюбіў вашу дачку ўсей душой, так як ніколі яшчэ не любіў і нікога ўжо больш так любіць ня буду... Паўліна таксама любіць мяне...

СЬЦЯПАН.

Пабачым! Я ей гэтае каханьне выбью з галавы!..

(Працяг будзе).





Друкарня „ДРУК", Вострабрамская, 5. Рэдактар-Выдавец ФРАНЦІШК АЛЯХНОВІЧ.